Cena 60 gr. Цана 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (178) БЕЛАСТОК, 26 ЛІПЕНЯ 1959 года ГОД IV



Госці ў часе візіту ў Ул. Гамулкі, Аляксандра Завадзкага і Юзэфа Цыранкевіча.



М. С. Хрушчоў у суправаджэнні Ул. Гамулкі праязджае па вуліцах Варшавы. Паважанага госця сардэчна вітае насельніцтва сталіцы. Фота — ЦАФ

# ПАД ШТАНДАРАМ БРАЦТВА НАРОДАЎ

**З вялікай сардэчнасцю вітаў польскі народ партыйна - урадавую дэлегацыю СССР на чале з Мікітам Хрушчовым, якая ў радасныя дні 15-годдзя ПНР наведала нашу краіну.**

**Усюды, дзе толькі з'яўляліся дастойныя дэлегаты, іх сустракала шчырая дэманстрацыя любві і дружбы да вялікага Савецкага Саюза.**

**На многатысячных мітынгах у шэрагу гарадоў нашай краіны працоўныя Народнай Польшчы выказалі, што вузы польска-савецкай дружбы з'яўляюцца моцнымі як ніколі.**

**«Штандар сацыялізма, які палошчацца над Савецкім Саюзам ужо сорак другі год, а над Народнай Польшчай ад пятнаццаці год — гэта штандар брацтва народаў. Толькі пад гэтым марксісцка - ленінскім штандарам магла здзейсніцца і ўсебакова развіцца польска - савецкая дружба» — сказаў тав. Гамулка на мітынгу дружбы ў Катавіцах.**

**Гэтыя словы першага сакратара нашай партыі з'яўляюцца як бы абагульненнем тых настрояў, з якімі спатыкаліся дарагія госці ў нашай краіне.**

## У першую гадавіну гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку

Мінула ўжо год ад часу паклікання да жыцця гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

За гэты параўнальна кароткі перыяд працы, гарадскі аддзел таварыства патрапіў здабыць сабе ў горадзе правы грамадзянства.

Зараз аддзел налічвае каля 400 членаў і амаль з кожным днём прыбываюць усё новыя. Несумненна, што папулярнасць сярод людзей і добрае імя можна здабыць толькі актыўнай дзейнасцю. А гарадскі аддзел патрапіў знайсці даволі цікавыя формы дзейнасці.

Вось хаця б арганізацыя, папулярных ужо ў Беластоку, беларускіх вечарын. Тут сапраўды культурна і весела можна правесці час.

Аддзел скамплетаваў сваю бібліятэку, якая налічвае каля 2.000 тамоў. Бібліятэкай ужо карыстаецца каля 100 пастаянных чытачоў. Бібліятэка ўсё папаўняецца цікавымі экземплярамі кніжак, якія дабраахвотна прыносяць члены таварыства.

Гарадскі аддзел пры дапамозе савецкай вайсковай часці арганізуе агляд савецкіх кінафільмаў, на якія заўсёды шмат ахвотных. Перад дэманстрацыяй кінафільма пераважна адбываюцца цікавыя даклады на актуальныя тэмы. У час адзначэння Дзён друку і кніжкі аддзел арганізаваў выстаўку беларускай кніжкі, якая карысталася вялікім зацікаўленнем. Выстаўка несумненна ў значнай ступені прычынілася да распаўсюджвання беларускай кніжкі ў горадзе.

Вядомая ўжо ў Беластоку эстрадная група, арганізаваная па ініцыятыве аддзела. Вельмі карысным аказаўся музычны курс, арганізаваны аддзелам, які ўжо закончыла 9 асоб. У канцы гэтага года аддзел намеран арганізаваць наступны такі курс.

Праўленне аддзела ў штодзённай працы абапіраецца на шырокім актыве таварыства і патрапіць добра выкарыстоўваць ахвярнасць.

✲

У суботу, 11 ліпеня ў сувязі з першай гадавінай гарадскі аддзел арганізаваў урачыстую вечарыну. На вечарыне актывістаў аддзела ўзнагароджана грашовымі ўзнагародамі і дыпломамі.

## КУЛЬТУРНЫ АБМЕН

9 ліпеня г. г. выехала ў Мінск на месячны курс 20-асабовая група беларускіх настаўнікаў, якія працуюць у школах на Беласточчыне. Арганізатарам курса з'яўляецца Куратарыум пры ўдзеле Беларускага грамадска культурнага таварыства.

Перад ад'ездам з сардэчным словам да сабраных ад імя БГКТ звярнуўся член Галоўнага Праўлення грам. Літвінчук.

Курс арганізаваны ў рамках культурнага абмену паміж Польшчай і СССР. У сувязі з гэтым Польшчу наведае таксама 20-асабовая група савецкіх настаўнікаў, пераважна са школ на Літве, дзе выкладаецца польская мова. Гэты абмен яшчэ больш наблізіць да сябе нашыя братнія краіны і дазволіць лепш пазнаёміцца з жыццём двух братніх дзяржаў.

(пч)



Шчаслівай дарогі



На здымку: Група беларускіх піянераў бестурботна і радасна праводзіць час над маляўнічым Аўгустоўскім азёрам. Сонца, радасць і... апетыту не забракне тут.

Фота — Мазурэк.

## БЕЛАРУСКІЯ ПІЯНЕРЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Сезон летняга адпачынку дзяцей у разгары. Тысячы юных гарцэраў праводзяць прыемна час у маляўнічых мясцовасцях краіны.

Камендатура Беластоцкай харугві ЗГП сёлета арганізавала абмен з беларускімі піянерамі.

У рамах абмену на Беласточчыну прыехала 21-асабовая група піянераў з Гродна. Яны весела праводзяць час у гарцэрскім лагеры над Аўгустоўскімі азёрамі.

26 ліпеня ў Гродна на адпачынак паедзе 22-асабовая група беластоцкіх гарцэраў.

У верасні запланавана абмен групамі інструктараў. Інструктары ЗГП Беласточчыны паедуць на Гродзеншчыну, дзе пазнаёмяцца з метадамі працы сярод піянераў, а Гродзенскія піянерскія інструктары ў гэты час пазнаёмяцца з працай сярод гарцэраў на Беласточчыне.

Такі абмен несумненна шмат дапаможа ў працы двум братнім дзіцячым арганізацыям.

(вб)

## Сродкі на школы помнікі

Лозунг «1000 школ на тысячагоддзе» Польскай Дзяржавы спаткаўся з усеагульнай падтрымкай насельніцтва ўсёй краіны. Актыўныя ўдзел прымае насельніцтва ў зборы грашовых сродкаў на пабудову школ помнікаў. Усяго ад 1 студзеня 1959 г. да канца чэрвеня г. г. сабрана 8.246 тыс. зл.

Аднак уклады розных груп насельніцтва ў гэтую грамадска-карысную справу неаднолькавыя.

Вытворчыя прадпрыемствы актыўна ўдзельнічаюць у зборы грамадскіх сродкаў і паспяхова рэалізуюць свае абавязацельствы. Наплываюць таксама ўклады рамесленнікаў, хоць і ў меншым размеры.

Горш выглядае справа на вёсцы. Уклады сялянскага насельніцтва да гэтага часу мінімальныя, усяго 7,7 прац. запланаванай сумы. Хоць на 7 школ помнікаў, якія будуць пабудаваныя на Беласточчыне 5 з іх пабудуецца ў вёсках.

Невялікія ўклады наплываюць таксама з так званых вольных заробкаў.

Зусім дрэнна выглядае справа ў прыватнай ініцыятывы, уклады якой зусім малыя.

Уплывы на конта Павятовых камітэтаў грамадскага фундуша пабудовы школ помнікаў выглядаюць па рознаму. Найлепш рэалізуе свае абавязацельствы павет Голдап, які выканаў 128,3 прац. плана. У гэтым павеце на 120 тысяч злотых задэкларараваных сабрана 154 тысячы 53 зл. Нямнога адстае ад Голдапа павет Кольна, які на задэклараваных 200 тысяч зл. сабраў 176 тысяч 169 зл., што складае 88 прац. плана.

Найгорш справа выглядае ў павеце Сэйны, дзе на 50 тысяч задэклараваных на конце павятовых камітэтаў СФБШ знаходзіцца 17.500 зл., што складае 17,5 прац. задэкларараванай сумы. Дрэнна выглядае справа ў Бельскім павеце, дзе на конце камітэта пабудовы школ складзена суму 85 тыс. 359 зл., якая складае 28,5 прац. а павет займае 18 месца ў ваяводстве.

Нямнога лепш выглядае справа ў Гайнаўскім павеце на конце якога ўсяго 45,2 прац. задэклараванай сумы, а павет займае 16 месца ў ваяводстве.

У агульным плане і яго рэалізацыі лепшым паветам пасля горада Беластока з'яўляецца Голдап. На апошнім месцы Бельскі павет.

Справа пабудовы школ помнікаў, гэта грамадская справа і грамадства павінна быць больш актыўным, асабліва сялянскае насельніцтва.

(пч)

## Наблiжаецца фестываль

Да VII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў засталося нямнога часу. Міжнародны падрыхтоўчы камітэт рэгулярна паведамляе ўсім нацыянальным падрыхтоўчым камітэтам аб ходзе падрыхтоўкі ў краінах.

Цяпер падрыхтоўка да фестывалю шырока разгарнулася амаль у 130 краінах. 1.200 міжнародных і нацыянальных маладзёжных і студэнцкіх арганізацый падтрымліваюць ідэю VII Сусветнага фестывалю.

Апошнюю падрыхтоўку да паездкі ў Вену заканчваюць юнакі і дзяўчаты СССР, Кітая, В'етнама, КНДР, Албаніі, Балгарыі, ГДР, Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі.

Савецкая дэлегацыя ўключае 800 чалавек.

Вялікія дэлегацыі збіраецца паслаць на фестываль моладзь Лацінскай Амерыкі. Гатовы выехаць у далёкі шлях 30 дэлегатаў Аўстраліі, прадстаўнікі моладзі Індaнезіі і Японіі.

500 чалавек прыедуць на фестываль з Англіі — маладыя рабочыя, студэнты, прадстаўнікі некаторых хрысціянскіх арганізацый і г. д. У ФРГ супраць антыфестывальнай пазіцыі лідэраў некаторых студэнцкіх каталіцкіх і іншых арганізацый выступілі радавыя члены гэтых арганізацый. Аб падтрымцы Венскага фестывалю і неабходнасці прыняць у ім удзел заявілі Саюз ліберальных студэнтаў ФРГ, маладыя евангелісты, некаторыя мясцовыя групы арганізацыі «Сябры прыроды». Моладзь Францыі рыхтуецца паслаць на фестываль дэлегацыю ў складзе 800 чалавек. Юнакі і дзяўчаты Італіі праводзяць па ўсёй краіне мерапрыемствы, прадугледжаныя праграмай Венскага фестывалю.

Усюды ідзе актыўная і шырокая падрыхтоўка да сусветнай сустрэчы моладзі.

## КАРЫСНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Добрымі справамі займаецца моладзь у Храбалах. У мясцовай святліцы беластоцкі клуб ЛПЖ арганізаваў матаровы курс. Курс будзе працягвацца 6 тыдняў, а пасля заканчэння яго ўдзельнікі атрымаюць права вадзіць матацыкл. Аб папулярнасці матарызацыі ў Храбалах сведчыць факт, што курс наведвае 43 асобы, у тым ліку адна жанчына.

Інструктарам курса з'яўляецца гр. Пугацэвіч.

Было б не без карысці, каб падобныя курсы былі арганізаваны і ў другіх мясцовасцях. Жадаючых напэўна знойдзецца многа.

(пч)

# А Й Ч Ы Н Ы

паказаць ім месцазнаходжанне партызанаў. Аднак мясцовыя сяляне асцярожна падыходзілі да размоў з такімі «партызанамі». Сваім выглядам і рухамі тыя адразу кідаліся ў вочы і здаваліся падазронымі. Але здараліся выпадкі, што шпікі траплялі на слабых людзей. Прыкладам можа паслужыць Галка з Семяноўкі, які, маючы кантакты з групай Васіля Пятровіча з прычыны сваёй лёгкаверпасці паказаў пераапранутаму гітлераўцу дарогу да партызан і прагавараўся, што, як і ён, кантакты з гэтай групай утрымліваюць Канстанцін Засім і Аляксандар Панкоўскі. На другі дзень Галка быў арыштаваны і вывезены ў Белавежу. Засіму і Панкоўскаму ўдалося ўцячы. Немцы кінулі дзве роты супраць групы Васіля Пятровіча. Партызаны былі ў акружэнні. Маладая, яшчэ слаба ўзброеная партызанская група не змагла перамагчы гітлераўцаў. Аднак партызаны абараняліся да апошняга патрона. У гэтай барацьбе загінула 26 партызанаў. Выйсці з акружэння ўдалося толькі Васілю Пятровічу і Сцяпану Фёдаравічу.



Рыгор Герасімюк з Палічнай, былы КПЗБ-овец, павешаны ў 1942 г. у Белавежы.

Гітлераўцы вярталіся з аперацыі. Яны былі вельмі задаволены. З іх пункту гледжання аперацыя была праведзена добра. У рапарце начальству яны данесылі аб ліквідаванні партызан у Белавежскай пушчы. Перамога іх была аднак зусім няпоўная. Пачалі развівацца дзейнасць групы, якія яшчэ заставаліся ў пушчы, а Васіль Пятровіч арганізуе новую групу, якая налічвала 35 асоб. Цяпер ён прыступае да арганізавання сеткі сувязных сярод лясных рабочых і мясцовых сялян. Першымі сувязнымі былі: Канстанцін Новік з Лукі, Філіп Байко, Скепка з Козяга Мосту, а таксама сям'я Жылюкоў і Васіль Сліўко, якія жылі ў пушчы, як чыгуначнікі і тэлефаністы. Яны інфармавалі партызанаў аб руху нямецкіх войск, арганізоўвалі дастаўку харчоў і амуніцыі.



Рыгор Волчык — актыўны дзеяч Грамады у Гайнаўцы замардаваны гітлераўцамі.

Група Васіля Пятровіча падрыхтавалася да зімовага жыцця ў лесе.

*

У раёне Старога Ляўкова і Нараўкі дзейнічала партызанская група пад кіраўніцтвам капітана Косціна. Між іншым, у яе склад уваходзілі: Сяргей Харкевіч — былы старшыня сельсавета ў Старым Ляўкове, Мікалай Ялоза — дэпутат у Вярхоўны Савет БССР, а таксама лейтэнант Савіцкі. З першых дзён яе існавання сувязным тут быў Дзмітр Несцярук са Старога Ляўкова. Група Косціна даведалася, што прычынай агідных забойстваў у лесе каля Лукі быў нямецкі солтыс Гайдучэня. Партызаны хочучы дакладна пераканацца, што з сябе ўяўляе Гайдучэня пераапрануліся ў нямецкія мундзіры і прыйшлі да яго. Гайдучэня прыняў іх вельмі добразычліва, выцягнуў з каморы нават найлепшую самагонку. Першы тост ён узнёс за Гітлера. Партызаны пілі вельмі асцярожна і мала. А Гайдучэня, калі ўжо добра захмялеў, развязаў свой язык. Пачаў вылічаць усіх людзей, якія павінны былі быць расстраляны так, як папярэдніх. Ён налічыў каля 40 кандыдатаў на расстрэл. Пры тым хваліў Гітлера і яго армію, прадказваючы, што савецкая Расія ў хуткім часе загіне. Капітан Косцін далей ужо не мог вытрымаць. Ён сарваўся з месца і стрэліў з пісталета прарэзаў здраднікa. Астатнія партызаны расправіліся з жонкаю і сынам шпіка, якія заклікалі на дапамогу гітлераўцаў.

*

Іван Іванавіч Крылоў наладзіў сувязь з многімі людзьмі з блізкіх да Гайнаўкі вёсак. Моцную апору меў ён асабліва ў Дубінах і Навасадах, дзе супрацоўнічалі з ім Рыгор Саевіч, Сцяпан Койла, Аляксандар Юрчук.



Гайновский рабочий

«Гайнаўскі рабочы» — орган Гайнаўскага падпольнага РК КП(б) Беларусі.

У Дубінах знаходзілася ў першы перыяд сядзіба Гайнаўскага Антыфашысцкага камітэта, адкуль выходзілі дырэктывы для іншых камітэтаў.

З кожным днём пашыраўся вызваленчы рух на Гайнаўскай зямлі. 1941 год быў падрыхтоўчым годам да стварэння рэгулярных партызанскіх атрадаў, дзейнасць якіх набірае сілы ў 1942 годзе.

(Працяг будзе)

# ПРА БАБРОЎ І БАБРОЎНІКАЎ

Даволі кінуць вокам на зямлю Беластоцкую, каб пераканацца ў тым, што ў мінулым на яе звілістых рэках і рэчках з лясістымі берагамі, глыбокімі тонямі і спакойнай плынню, напэўна, вадзіўся каштоўны звер — бабёр. Ды і не мала было яго тут!

На Саколдзе і Свіслачы, на Супраслі і на шматлікіх прытоках Нарвы і Буга вялікімі калоніямі жылі бабры. Бабёр — звер вадзяны, любіць спакойную і ўсцішную рачную затоку і многа асіны, лазы і вадзяных раслін на яе берагах. Корміцца бабёр карой і карэннем, а жыве ў хатцы, якую сам будуе з галля і дрэва над вадою.

Прайшлі стагоддзі. Рабунковая лясная і паляўнічая гаспадарка вынішчыла нашыя беластоцкія лясы, выбіла лясную звярыну. Ї да нашых дзён па вялікіх «бабровых ловах» засталіся толькі назвы мясцін ды вёсак, як Баброўнікі над рэчкай Свіслаччу ў Беластоцкім павеце, вёска Баброва пад Кнышынам, назва ракі Бебжы, якая ў мінулым звалася Бабровай...

Ці толькі ўсяго?

О, не! Засталіся яшчэ каштоўныя запісы ў старадаўніх княжаскіх і каралеўскіх граматах, якім цяпер ужо звыш 400 год. Їменна з гэтых, ахутаных пылам, пажаўцелых пергаментаў мы даведваемся шмат цікавага пра былых жыхароў падляшскіх рэк і рэчак — баброў. Даведваемся мы гэтых цакументаў і пра баброўнікаў — спецыяльных людзей, якія займаліся ў панскіх і каралеўскіх пушчах і лясах доглядам і паляваннем на баброў.

Вялікай была бабровая гаспадарка на Падляшшы ў часы панавання вялікіх князёў літоўскіх. А за часы панавання караля Зыгмунта Ї спецыяльны каралеўскі чыноўнік загадваў ёю. Насіў ён званне «падляшскага бабраўнічага». У 1514 годзе кароль Зыгмунт Ї спецыяльнай граматай пацвярджае правы «падляшскаму бабраўнічаму» Паўлу Скірміновічу на «жрэб» казлоўскі ў вёсцы Булках пад Драгічынам. «Жрэбам» называўся ў тыя часы асобы кавалак зямлі ў вёсцы і адпаведная парцэля пушчы, дзе вадзіліся бабры.

Князі і вяльможы Вялікага княства Літоўскага і сам кароль апекаваліся сваімі «бабровымі ловамі» і не супраць былі загарнуць іх ад суседа.

Вось у 1523 годзе баброўнікі з Бельска паскардзіліся каралю на графа Мікалая Радзівіла за тое, што Радзівіл забраў сабе «бабровыя ловы», якія былі на рацэ Супраслі і Саколдзе, далучыўшы іх да сваёй маёмасці, а бельскіх баброўнікаў прагнаў з былых іх «жрэбаў». Як вырашыў кароль гэтую скаргу, нам невядома.

Бабёр на нашай зямлі быў пад спецыяльнай аховай. Над каралеўскімі «бабровымі ловамі» меў дагляд каралеўскі двор, а сам кароль вельмі часта па гэтай прычыне выдаваў пісьмовыя загады. Так, у 1529 годзе кароль напомніў спецыяльным наказам мяшчанам горада Нарва, каб яны ў часе лоўлі рыбы ў рацэ Нарве не пужалі баброў і не руйнавалі іх будоў.

Ва ўставе караля Зыгмунта Аўгуста ад 1 красавіка 1557 г. чытаем: «А во всих и обчих пущах, где перед тым подданые наши бобры на нас, гонили, и теперь по первому гонити мають; а где бы ся в реках и в озерах наших ново бобры показали, и там ловити мають, а за працу их брати им бобра пятого, альбо почеревье от кождого бобра».

Дарэчы, варта заўважыць, што з баброў атрымоўвалі не толькі каштоўнае футра, але і «бабровы струмень» — спецыяльную вадкасць, якую выдзяляе арганізм бабра да змазвання шэрсці, каб яна не намакала ў вадзе. У тыя часы «бабровы струмень» цаніўся, як лякарства ад розных хвароб.

Вось адкуль узяліся назвы «Баброва» і «Баброўнікі». Не менш цікавыя гісторыі крыюць іншыя названні нашых мясцовасцей. Аб іх раскажам наступным разам.

(мг)

# КРЫНІЦЫ ЗДАРОЎЯ

Будучы на Беласточчыне ў сваякоў, Фёдар Георгіеў Гулеў, медыцынскі работнік з Банкя каля Сафіі, наведаў нашу рэдакцыю.

Карыстаючыся ветлівасцю нашага госця, мы папрасілі яго расказаць нашым чытачам аб курортах і мінеральных крыніцах Балгарыі. Варта сказаць, што сябра Гулеў з'яўляецца сталым чытачом «Нівы» ў Балгарыі. «Нівай» цікавяцца і просяць пачытаць усе яго знаёмыя і курортнікі. Ад іх нашым чытачам сардэчныя пажаданні шчасця і добрага здароўя.

Балгарыю смела можна назваць краінай курортаў. Спрыяе гэтаму і клімат, і геаграфічнае месцазнаходжанне краіны. Як нам вядома, Балгарыя — краіна гарыстая, яе раздзяляе на дзве часткі, паўночную і паўднёвую, Старая Гара (Стара планіна).

Паўднёвая частка Балгарыі і ўзбярэжжа Чорнага мора багатыя мінеральнымі крыніцамі. Балгарыя налічвае іх 125, з якіх 25 маюць дзяржаўнае значэнне.

Апрача афіцыяльна вядомых курортаў, у краіне існуе паўтысячы мінеральных крыніц, якія між сабой адрозніваюцца хімічным складам і тэмпературай. Можна іх падзяліць на групы:



Мадонна з Базуталенда.

а) халодныя = да + 20°C
б) цёплыя = ад + 20°C да 37°C
в) гарачыя = больш + 37°C.

Большасць з іх — гарачыя. Найцяплейшая мінеральная крыніца знаходзіцца ў Сэпарэвай Бані з тэмпературай вады + 102°C, другая — у вёсцы Варвара каля Пазарджыку (+ 93°C), у Кюстэндзіле (+ 36°C), Вэлінградзе - Кменіцы (+ 78°C) і іншыя.

Мінеральныя воды маюць у сабе многа рэдка сустракаемых хімічных элементаў, прыгодных для лячэння. Балгарскія мінеральныя воды залічаюцца да найбольш лячэбных вод у свеце.

Крыніцы гэтыя знаходзяцца на розных геаграфічных узроўнях і адтуль іх разнародны характар у лячэнні.

Курорты можам падраздзяліць на лазневыя, кліматычныя, марскія і гразелячэбныя.

Напрыклад, Сэпарэва Баня знаходзіцца ў гарах Рыла, 725 м над морам. У наваколлі знаходзяцца 3 крыніцы, нядаўна адкрыты адзіны гарачы гейзер з тэмпературай + 102°C, воды якога ўжываюцца не толькі для лячэння, але і ў сельскай гаспадарцы — аранжэрэях, для вырошчвання ранняй агароднiны.

А вось якія хваробы лечаць у Сэпарэвай Бані — касцявая сістэма, сардэчна - сасудзістая сістэма, гінекалагічныя і скурныя хваробы, хранічныя атручванні і хваробы цэнтральнай нервовай сістэмы.

Пры лячэнні мінеральная вада ахаладжваецца ў ваннах у залежнасці ад хваробы.

У Хаскаўскіх лазнях, між іншым, лечаць хваробу Бюргера, раўматычныя хваробы перыферыйнай і цэнтральнай нервовай сістэмы. У Нарэчэн — ад ціску крыві, артэрасклерозу. У Хісары — ныркі, пячонка, рэўматызм.

Усе курорты добра забяспечаны дактарамі і медыка - санітарным персаналам.

Прыгажосць Балгарыі штогод прыцягвае шмат турыстаў з іншых краін, напр., у 1958 годзе толькі ў Варне было больш 20 тысяч, не ўлічваючы іншых мясцовасцей.

Ч. К.

## З падарожжа Агафона Аброткі па Афрыцы



У святочных упрыгожаннях.

# НОВЫЯ КНІГІ

Angelos Angelopoulos — грэчаскі прафесар.

CZY ATOM ZJEDNOCZY ŚWIAT?

Кніга дае сістэматычны аналіз эканамічных, сацыяльных і палітычных вынікаў застасавання ядзернай энергіі.

Развіццё тэхнікі пры мірным выкарыстанні атама і сацыяльныя змены, якія дзякуючы гэтаму наступяць, Ангелапаул называе «новай рэвалюцыяй».

Людзей на зямлі прыбывае. Але каб хапала ўсім месца, ежы і радасці, не трэба змяншаць натуральнага прыросту людзей праз войны, як гаворыць буржуазная ідэалогія. Ангелапаул супрацiўляецца гэтаму і ўказвае на шэраг нявыкарыстаных рэзерваў, якія дадуць людзям новыя матэрыяльныя каштоўнасці. Атам пры яго мірным выкарыстанні павінен гэтаму садзейнічаць.

У канцы кнігі аўтар гаворыць аб канферэнцыі ўсіх дзяржаў свету і аб стварэнні ўсенароднага ўрада. Мае гэта быць канчатковы вынік вялікага працэсу, якім з'яўляецца мірнае выкарыстанне ядзернай энергіі.

Кнігу выдала «Książka i Wiedza». Цана 18 зл.

Eugelbert Broda

ENERGIA JĄDROWA — GROZA CZY NADZIEJA?

Таксама тэме ядзернай энергіі прысвячае сваю працу Брода — нямецкі прафесар.

Кніга яго ў папулярнай форме дапамагае арыентавацца ў пытаннях ядзернай энергіі і ўказвае на розныя формы практычнага яе прымянення.

Выдавецтва «Wiedza powszechna». Цана 20 зл.

BAJKI MURZYŃSKIE

Аб неграх мы часта маем несправядлівае ўяўленне як аб людзях прымітыўных, няздольных на глыбокія пачуцці і высокую фантазію.

Усіх, хто так думае, адсылаю да невялікага зборніка «Негрыцянскіх казак» літаратурнага выдання ў Кракаве. Кожная казка ў ім пакажа нам неграў, як людзей здольных, багатых словам, думкай, уражлівых і далікатных. Цана 28 зл.

# МАЕ ПРЭТЭНЗІІ да анёла-стоража

Калі я нараджаўся, анёл-сторож адразу заняў сваё месца ў галавах ложака.

Так гаварылі мне бацькі.

Я маю поўныя падставы быць незадаволеным сваім анёлам - сторажам. Мабыць мне нейкі лодыр трапіўся. Як жа інакш зразумець тое, што здарылася ў маім жыцці? Няхай хто з вас скажа мне, дзе быў мой анёл - сторож у той час, як бацька, перакуліўшы на калена, хлястаў мяне па мяккім месцы з асалодай прамаўляючы: Нарабіў бяды, цярпі сынок, гэта табе ў галаву пойдзе.

А чаму мой анёл - сторож не адцягнуў мяне за вушы ад жаніцьбы?

Чаму пасля выпіўкі не мой апякун праводзіць мяне дамоў, толькі міліцыянер у камісарыят цягне. А як вярнуся дахаты, жонка гаршкамі закідвае мяне. Чаму ён тады не пралляціць побач.

А калі гуляючы ў ачко, набяру шаснаццаць, чаму мой апякун не падказвае — цягнуць далей карту ці не.

У майго партнёра Сенькі анёл - сторож добрасумленна дзейнічае. У Сенькі - лаўкача заўсёды ачко набярэцца. І як тут выйграеш адзін з двума?

Дык вось, дарагія мае, прэтэнзіі мае слушныя. Калі б мой анёл-сторож быў верны, дык я б чхаў з канцэртам на ўсе справы.

*Фэздзька Лявань*

## МУЗЫКАЛЬНЫ

— Вы музыку любіце?

— Вельмі! Мне і майму бацьку музыка выратавала жыццё.

— Не можа быць? Як жа гэта было?

— Была вялікая паводка. Мы не паспелі ўцячы. Выратаваліся толькі дзякуючы таму, што я плыў на кантрабасе, а мой бацька на фартэпіяне.

б—ч

### НЕПАРАЗУМЛЕННЕ

Муж выслаў жонку на адпачынак. Пасля пейкага часу ён так занудзіўся за ёю, што звольніўся на адзін дзень з працы і пастанавіў наведаць яе. З вялікай радасці і захаплення паслаў тэлеграму наступнага зместу:

«Прыязджаю ў суботу. Твой Коцік».

Увайшоўшы ў пакой жонкі заўважыў незвычайна прыкрую карціну — яго жонку засыпаў пацалункамі нейкі малады мужчына. Раззлаваны муж зачыніў за сабой дзверы, чым хутчэй пабег на цягнік і паехаў да цёшчы.

— Гэта проста непаразуменне, — праказала цёшча, яна напэўна не атрымала гэтай тэлеграмы, таму нельга яе ў тым вінаваціць.

б—ч



Чэрствае сэрца
І тое растане,
Калі нечакана
Такая паўстане.

З ёй боязна нават
Сустрэцца вачыма..
Аб правілах руху
Забыўся хлапчына.




Юнак тэлеграму
Падаў у акенца:
«Віншую Галіна,
Цалую ад сэрца».
Юнак тэлеграму
Падаў у акенца:
«Вітаю, Марына,
Кахаю ўсім сэрцам»
Юнак тэлеграму
Падаў у акенца:
«Тамара, люблю я
Цябе да паўсмерці»

«Чырвоная змена».

### ПАМІЖ ЖАНЧЫНАМІ

—Які вялікі вырас твой сыночак, Агата! Скольні яму год?

— Зараз, зараз! Ад Пятра да Сёмухі 7 год, ад Спаса да Івана 3, ад Івана да багача 2. Гэта значыць яму ўжо стукнуў 12-ты годзік!

### РАЦЫЯ

Настаўнік на ўроку: — Вас у класе ёсць 20 аслоў!

Адзін з вучняў:

— От і 21!

Збянтэжаны настаўнік выкідае яго за дзверы. Праз момант той праз акно крычыць:

— О цяпер пан мае рацыю.

### НА ЎРОКУ

Настаўнік: — Ну, а скажы, Жэня, што такое ПАН?

Жэня: — Польска Акадэмія навук.

Настаўнік: — А хто там засядае?

Жэня: — Прафесары!

Настаўнік: — Бачыце дзеці, я ж такозма прафесар а там не засядаю!

Жэня: — Ну так, але там, такія разумныя прафесары.

(к)




### ГІСТОРЫЯ БЕЗ СЛОЎ




Гэта гісторыя без слоў,
Распачалася ад буслоў.




І лёс бусла ўсё ж змяніўся,
Як рэактыў у нас з'явіўся.




Пражыўшы яшчэ пару год
Разгорне тэхніку народ...
Заступяць сродак гэты
Вялікія ракеты.

Тэкст і малюнкі прыслаў
КАСТУСЬ СІЛЬВАНЮК
Беласток

### СПРАВЯДЛІВАЯ

Сын да бацькі:

— Тата, чаму смярдзь такая худая?

Бацька:

— Бо не бярэ хабару, таму і патаўсцець не можа... (гук)

### АДКАЗАЎ

На ўроку заалогіі настаўніца запытала Васю:

— Скажы Вася, чаму рыбы не ўмеюць гаварыць? На гэта Вася адказаў ёй:

— Вядома чаму, усадзіце галаву ў ваду і паспрабуйце што-небудзь сказаць.

### ПАХВАЛІЎСЯ.

Ваня прынёс са школы пасведчанне і ўзрадавана кажа бацьку:

— Тата, маем шчасце. Гэты год не будзеш мне купляць падручнікаў.

— Чаму гэта, сынок?

— Таму, што я застаўся на другі год у тым самым класе.

Прыслаў
АЛЕСЬ САВІЦКІ
Белявічы
пав. Беласток.

**Твой цікавы, самадзельны гумар з жыцця асяроддзя, у якім ты знаходзішся будзе заўсёды надрукаваны ў „НІВЕ".**

**Рэдакцыя заплаціць табе па 20 зл. ад штукі.**

### ПАЦЫЕНТ

— Значыцца ў тым месцы вы адчуваеце боль?

— Так, і моцны боль, доктар.

— Як часта гэты боль паўтараецца?

— Што пяць мінут, доктар.

— А як доўга не ўступае?

— Сама менш пятнаццаць мінут..

ч

### ПАХВАЛІЎСЯ

— Паглядзі суседзе, якую я знайшоў сякеру, яшчэ новая.

— А дзе ж ты яе знайшоў?

— Вось там, каля твайго хлява ляжала.

Л. Т.

### ДЗЯЎЧЫНА ШАФЁР

Дзяўчына запісалася на курс шафёраў. Прайшоўшы тэарэтычную падрыхтоўку яна пачала практыкаваша. У часе першай язды ўехала на дрэва і разбіла самаход.

— Скажыце мне, калі ласка, — звяртаецца да інструктара, — ці многа яшчэ трэба мне, каб самастойна кіраваць машынай?

— Тры, чатыры... —

— Урокі?

— Не, самаходы..

б—ч

## У ВОЛЬНЫ ЧАС...



...паспрабуй зададзеных частак «стварыць» нешта канкрэтнае.